© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024


журавы: Дарога здрады

Парасчын тэлевізар

У гарачай краіне

STOWARZYSZENIE MUZEUM I OŚRODEK KULTURY BIAŁORUSKIEJ w HAJNÓWCE 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42 tel. (085) 682 28 80 BIBLIOTEKA


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 7 (416) | ГОД IX | 16 ЛЮТАГА 1964 г. | ЦАНА 60 ГР.


# АДОЗВА АГУЛЬНАПОЛЬСКАГА КАМІТЭТА ФРОНТА АДЗІНСТВА НАРОДА

**ДА ЎСІХ ГРАМАДЗЯН НАРОДНАЙ ПОЛЬШЧЫ. АГУЛЬНАПОЛЬСКІ КАМІТЭТ ФРОНТА АДЗІНСТВА НАРОДА ЎРАЧЫСТА ПРАКЛАМУЕ 1964 ГОД ГОДАМ ХХ-ГОДДЗЯ НАРОДНАЙ ПОЛЬШЧЫ.**

20 год таму назад наш народ здабыў незалежнасць, адрадзілася на новых асновах грамадскага ладу Польская дзяржава. Уладу ў краіне перанялі ў свае рукі працоўныя масы гарадоў і вёсак.

Узнікненне народнай Польшчы было пераломным здарэннем у тысячагадовых падзеях нашай краіны. Вярнуліся да радзімы, адарваныя перад стагоддзямі прастарыя П'яставы землі над Одрай, Нысай і Балтыкай. Польскі народ на чале з рабочым класам узняў эпахальную справу перабудовы грамадскіх суадносін, ажыццяўлення ідэй і імкненняў найлепшых сыноў радзімы, пакаленняў патрыётаў і рэвалюцыянераў, барацьбітоў за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне.

Ніводнаму з папярэдніх пакаленняў не давялося развязваць столькі задач і праблемаў, ды яшчэ ў так цяжкіх умовах.

Напярэдадні юбілейнага ХХ-га года Народнай Польшчы глядзім на пройдзены шлях, ацэньваем вынікі сваіх намаганняў з пачуццём заслужанай гордасці.

Ахвярная праца народных мас унесла велізарныя вартасці ва ўсіх галінах нашага жыцця. Адбудавалі мы з руін і папялішчаў гарады і вёскі, разбураныя прадпрыемствы, школы і навучальныя ўстановы, помнікі нацыянальнай культуры.

У дзевяць разоў павялічылі прадукцыю прамысловасці. Узрасла сельскагаспадарчая вытворчасць, змянілася аблічча вёскі. Польшча пераўтварылася ў сучасную прамыслова-сельскагаспадарчую краіну.

Шырока адкрыліся дзверы школ і вышэйшых навучальных устаноў для ўсёй моладзі. Дасягненні нацыянальнай культуры сталі даступнымі шырокім працоўным масам.

Саюз і дружба з Савецкім Саюзам, адзінства і супрацоўніцтва з краінамі вялікай сацыялістычнай сям'і ўмацавалі незалежнасць і бяспеку нашай радзімы. Паслядоўная мірная замежная палітыка народнай Польшчы, наша творчая ініцыятыва, накіраваная супраць пагрозы тэрмаядзернай катастрофы, а таксама дапамога і падтрымка народаў, змагаючыхся за свабоду і эканамічную незалежнасць супраць каланіялізма ва ўсіх яго формах, здабылі сабе пашану другіх народаў свету.

Асновай усіх дасягненняў Народнай Польшчы з'яўляецца тое, што яна звязала свой лёс і будучыню з найбольш прагрэсіўнай і рэвалюцыйнай ідэяй у дзеях чалавецтва — з ідэяй сацыялізма. У гістарычных дасягненнях ХХ-годдзя змяшчаецца вялікая паклажа аптымізму. Менавіта гэта з'яўляецца крыніцай новых сіл у пераадольванні цяжкасцей, выступаючых пры рэалізацыі вялікіх задач.

На моцных асновах узвышаецца гмах нашай сацыялістычнай радзімы. Выразна вырысоўваюцца перспектывы далейшага развіцця гаспадаркі і нацыянальнай культуры. Вызначыць іх IV З'езд Польскай Аб'яднанай Рабочай Партыі, пад ідэйным кіраўніцтвам якой народ наш рэалізуе вялікую справу пабудовы новага жыцця.

Далейшае ўсебаковае развіццё Айчыны залежыць ад нас самых, ад нашых патрыятычных і грамадзянскіх адносін да прафесіянальнай працы і жыцця.

ПАРП, ЗСЛь, СД, прафсаюзы, маладзёжныя, жаночыя і спулдзельчыя арганізацыі, прагрэсіўныя каталіцкія дзеячы, грамадска - культурныя арганізацыі, згуртаваныя ў Фронце адзінства народа, заклікаюць:

Вас, рабочыя, інжынеры, тэхнікі, высакародна адзначыць свята нараджэння Народнай Польшчы, прадукцыйным чынам,

(Працяг на стар 2)

## З жыцця БГКТ

# З ДАПАМОГАЙ ДЛЯ АДДЗЕЛА

Ад нейкага часу праўленне Бельскага аддзела БГКТ не праяўляла дастатковай актыўнасці ў сваёй дзейнасці. Рэгулярна не адбываліся пасяджэнні. А калі і адбываліся, дык у большасці выпадкаў пераўтвараліся ў гаварыльню. Члены праўлення і актыў амаль не цікавіліся працай гурткоў, якіх налічваецца на Бельшчыне больш 40, згуртоўваючы 1288 членаў. Рэдкасцю былі выезды да гурткоў. Дрэнна выглядае справа з аплачваннем членскіх складчын. Галоўнае праўленне БГКТ неаднойчы праяўляла спробы ажывіць дзейнасць Бельскага аддзела, але гэта патрэбных вынікаў не давала. Вось таму нацыянальная камісія Ваяводскага Камітэта ПАРП вырашыла зрабіць ацэнку дзейнасці Бельскага аддзела БГКТ, а таксама выступіць з прапановамі адносна паляпшэння працы аддзела.

30-га студзеня нацыянальная камісія пры Ваяводскім Камітэце ПАРП пачаткова наведала гурткі БГКТ у Рыбалах, Храбалах, Крывой, Орлі, Кашалях, Леўках і Райках, а пазней у Бельску адбылося пасяджэнне гэтай камісіі з прадстаўнікамі павятовых улад, актывістамі і членамі праўлення аддзела БГКТ.

У творчай дыскусіі былі абмеркаваны прычыны аслаблення актыўнасці аддзела і метады ажыўлення яго працы. Многія дыскутанты звярталі ўвагу на важнасць прапаноў нацыянальнай камісіі, якія гарантуюць добрую дзейнасць БГКТ на

(Працяг на стар. 5)




Адной з галоўных тэм гаспадарчых дыскусій мінулага года быў наш замежны гандаль. Шмат месца было прысвечана справам імпарту і экспарту, як у дакладзе, так і ў дыскусіі, на апошнім Пленуме. У сувязі з невыкананнем экспартных заданняў сельскагаспадарчай і харчавой прамысловасцямі па вядомых ужо прычынах, асабліва ўзмацнілася ў мінулым годзе імкненне да пашырэння экспарту тэхнікі, да вывядзення на замежны рынак новых вырабаў. Якія ж тавары ўпершыню ў 1963 годзе пераехалі граніцу?

### ПОСПЕХ ПАД КАЛЬКУТАЙ

Сярод некалькіх новых аб'ектаў, — як гаворыць гандлёвы дырэктар «ЦЭКОП» Ежы Дзяржынскі, — асаблівым пачуццём мы звязаны з пабудаваным у Індыі, недалёка ад Калькуты, шклозаводам. Гэта цікавае ў сусветным маштабе прадпрыемства, якое прадукуе 700 тыс. квадратных метраў будаўнічага і 1400 тыс. квадратных метраў арнаментнага шкла і на якім працуе 300 рабочых, з'яўляецца нашым дэбютам у гэтай галіне, калі не лічыць некалькіх камплектаў абсталявання для шклозаводаў. Асабліва варта падкрэсліць, што першая, яшчэ пробная прадукцыя была такой удачнай, што кліент мог выпусціць яе на рынак як паўнавартасны тавар.

### ТЭМП — ЗНАЧЫЦЬ, ГРОШЫ

Гваздом сезону ў Металэкспарце, — гаворыць дырэктар З. Госк, — былі ў мінулым годзе кросны. Пакупнікамі кросен для бавоўны, якія выпрабляе Відзеўская фабрыка тэкстыльных машын, былі Югаславія і краіны паўночнай Афрыкі. Кросны для воўны, якія вырабляе металічны завод у Скаржыску, купілі Індыя і Іран. Было прададзена 1000 кросен на суму каля 8 млн. зл. дэвізовых. Маю на думцы толькі 1963 год. Высокая якасць нашых кросен і канкурэнцыйны тэрмін дастаўкі (на 6 месяцаў карацейшы за сусветны, які складае 12 месяцаў), даюць падставы спадзявацца, што ў гэтым годзе, разам з вывядзеннем на сусветны рынак новых тыпаў кросен, экспарт гэтых машын сур'ёзна павялічыцца.

### СПІСАК «ЭЛЕКТРЫМУ»

Спецыфіка тавараў, якімі гандлюе наша цэнтраль, — гаворыць дырэктар «Электрыму» Генрых Чарнецкі, — з'яўляецца прычынай таго, што спісак нашых «гваздоў сезону 1963» будзе даўжэйшым. У авангардзе мінулагодніх экспартных дэбютантаў ідуць тракцыйныя выпрамніковыя падстанцыі, высланыя ў кааперацыі са Швейцарыяй у Бразілію. У Бразілію экспартаваны былі таксама часткі тэлефонаў для мантажу на месцы. На фоне гэтага пагаднення трэба падкрэсліць, што яно магло быць заключана толькі таму, што гадзіннікавы завод «Блоне» выпрадукаваў вельмі добрыя тэлефонныя дыскі.

Калі ўжо мы разгаварыліся аб сувязі, варта ўспамянуць аб радыётэлефонах, вывезеных у Румынію, а

(Працяг на стар 4)



БЕЛАСТОК ЦЯГНЕЦЦА ЎВЕРХ.

Фота В. Рудчык

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

**ВЕСТКІ з БССР**



У павільёне Беларускай ССР на Выстаўцы дасягненняў народнай гаспадаркі ў Маскве наведвальнікі знаёмяцца з вырабамі мінскіх прадпрыемстваў.

# Новыя беларускія экспанаты на Выстаўцы дасягненняў народнай гаспадаркі СССР

На пляцоўках павільёна «Механізацыя і электрыфікацыя сельскай гаспадаркі» з'явіліся новыя экспанаты Беларусі. Іх прыслаў мінскі завод «Ударнік». Увагу наведвальнікаў прыцягвае навесны аднакорпусны кустабалотны плуг «ПКБН—100». Ён прызначаны на заворванне кустоў розных парод на балотна - тарфяністых і мінеральных забалочаных глебах. Плуг спалучаецца з трактарамі «С—100 ГП» і «С-100 БГП». Прадукцыйнасць такога агрэгата 2—3 га за змену. Абслугоўваецца ён адным чалавекам — трактарыстам.

Не меншай цікавасцю наведвальнікаў карыстаецца навесны плуг маркі «ПКБН — 60», які спалучаецца з трактарам «Д 111—55 А». У параўнанні з іншымі кустабалотнымі плугамі навесны плуг «ПКБН—60» мае лепшую манеўранасць. Заворвае ён 1,5 — 2 гектары за змену.

### ТРУБЫ ДЛЯ ХІМІЧНАЙ ПРАМЫСЛОВАСЦІ

На Гомельскім шклозаводзе асвоена вытворчасць тэрмастойкіх шкляных труб. Яны добра вытрымліваюць высокія тэмпературы, не рэагуюць на шчолак і кіслоты. Каля трох мільёнаў пагонных метраў такіх труб завод ужо даў краіне. Выкарыстанне такіх труб у харчовай і хімічнай прамысловасцях, па прыблізным падліку, дасць магчымасць сэканоміць каля 20 тысяч тон каляровых металаў. Зараз на заводзе закончаны мантаж першай у краіне ўстаноўкі для вырабу гэтых труб дыяметрам у 100 да 200 мм.

Свой вопыт у вытворчасці тэрмастойкіх труб гомельскія шклавары перадаюць аднатыпным прадпрыемствам Савецкага Саюза і краінам сацыялістычнай садружнасці.

**З ПІСЕМ ЗЕМЛЯКОЎ**

# БАГАТЫ ЎЛАДАК І ЯГО ЖОНКА

Смех і злосць naперамену бярэ чалавека, калі ўспомню пра Стаська з хутара, што пад лесам. Сястра яго ў нашай вёсцы замужам за Уладкам, тым скнэраю, што нават раз у месяц голіцца, каб брытва не зрэзалася і да смерці была...

Уладак пазалетась стаўляў хату сабе на агародах, наняў майстроў невядома адкуль, бэлькі не ўмелі проста пакласці, але затое танна ўзялі за работу, не дамагаліся мяса на абед. Будавалі, будавалі, валачыўся Уладак з імі цэлае лета, аж да капання бульбы дацягнулі, маруды праціўныя...

Уся гаспадарка на жончыных ды Стаськавых руках трымалася — вядома, ніхто ў сям'і ад дапамогі не адгаварваецца пры ладзе і парадку. Тупаў — чләмбаў Стасько ў крывых, стаптаных ботах ад ранку да ночы адзін, бо маці старая, добра, што ў хаце яшчэ сяк-так паробіць ды есці прыгатовіць. Не паспее ён толкам работы дакончыць, аж бяжыць сястра і крычыць — памажы авёс звезці ад луга, хмара насоўваецца, дождж сыпане, і не забудзь, ідзі заўтра канюшыну касіць каля альшыны...

Нарэшце Уладак паставіў хату, а Стасько высах у шчэпку, па дзвюх гаспадарках бегаючы, бы парабак. Сястра ад радасці вялікай забылася пра жалі таемныя да брата і маткі роднай за пасаг мізэрны і захацела аддзякаваць Стаську, дзяўчыну высватала яму заможную, гэту Лёдзю Хведараву, што калісьці да яе гаёвы ездзіў — ездзіў ды наканец пакінуў...

Кажа, — зямлі дасць цесць тры гектары і дрэва на гумно, добра ўладкуешся на хутары харошым, я сама ўсё перагавару, збірай грошай на вяселле і едзь да мястэчка гарнітур заказаць у краўца, дам матэрыялу Уладкавага, перадваеннага, грубага, цяпер такога не прадаюць...

Паслухаўся Стасько сястрыных угавораў, пара жаніцца, аднаму ані выжыць, ані абрабіцца. Вяселле адбылося, Хведар хваліўся, што дае тры гектары пшанічнага палетку, а пра дрэва на гумно неяк не ўспамінаў. Тады сястра заступілася за Стаська і сказала, што без таго абяцанага дрэва кепска выйдзе. Хведар як бы перапалохаўся і паклаў свату на талерку пяць кусочкаў хлеба, значыць, столькі авец дадасць да пасагу, а аб драўніне пасля пагаворыць. Брат маўчыць, нічога не адзываецца, то і сястра сціхла задаволеная, што хоць сваю гаспадарку на ногі паставіла і хату гатовенькую мае.

Уладак напіўся дармовай гарэлкі без памяці, да танцаў падзыгаў, агарнула яго весялосць дзікая. Я швагер, — крычаў ён, — і хачу з маладою загуляць!» Пайшла Лёдзя танцаваць з ім, а Уладак непрытомны лезе цалавацца, наступіў ёй на туфаль і паваліліся, ажно пыл закурэў!...

Жартавалі людзі, рагаталі, смяяліся, як на вяселлі: заўсёды хтосьці мусіць дурнем выглядаць і смехаты начаўпсці.

І вось, нядаўна, нарадзіла Лёдзя сынка, вясковыя бабы жартамі прытыкнулі, што якраз ён да Уладка, а не да Стаська падобны... Уладак, валіза непаваротлівая, маецца цяпер, жонка з кулакамі соваецца да яго, каб прызнаваўся. Паверыла, цудачка, што ён можа прапускае грошы на залёты швагерскія. Ушчэмілася аберуч за багацтва мужыковае, ні кропелькі не падаруе.

Дзе там такому Уладку да рамансаў каштоўных, калі ён гатовы за залатоўку вош гнаць да Варшавы...

**АДОЛЬ КАСТРЫЦА**

# Аляксандр Гіншт — найлепшы трактарыст

Ужо два гады адбываецца спаборніцтва паміж трактарыстамі сельскагаспадарчых гурткоў Беласточчыны. У 1962 годзе найлепшым трактарыстам на Беласточчыне аказаўся Віктар Радзецкі з сельгасгуртка ў Бранску, Бельскага павета. У мінулым годзе ў спаборніцтва ўключылася 100 трактарыстаў. Яны з нецярплівасцю чакалі на вынікі.

25 студзеня ў Ваяводскім праўленні ЗМВ у Беластоку адбылася нарада трактарыстаў — удзельнікаў спаборніцтва за 1963 год, на якой былі падлічаны вынікі. Найлепшым трактарыстам аказаўся Аляксандр Гіншт з Дубін, Гайнаўскага павета. Ён на працягу мінулага года выпрацаваў сваім «Урсусам» 1 760 гадзін. Пераможца атрымаў 3000 злотых узнагароды. Гайнаўскі павет заняў таксама першае месца ў спаборніцтве. (вб)

# IV ТОМ „БЕЛАСТОЦКАГА ГАДАВІКА"

Стала ўжо традыцыяй адзначаць у «Ніве» выхад кожнага чарговага тома «Беластоцкага гадавіка» — гэтага сур'ёзнага навуковага выдання. IV том павінен асабліва зацікавіць беларускага чытача. У ім жа ж параўнальна шырока закранаюцца пытанні, якія маюць непасрэднае дачыненне да гісторыі беларускай дэмакратычнай думкі, да польска-беларускіх рэвалюцыйных традыцый. Сігналізуючы гэтую тэматыку, хочам падкрэсліць адзін знамянальны факт. Польскія аўтары, менавіта, прывязваюць штораз большую вагу да вывучэння гэтай тэматыкі, спрыяючы тым самым азнаямленню грамадства з гісторыяй беларускага народа, маючай шмат агульнага з гісторыяй польскага народа.

Вельмі каштоўнай у IV томе «Беластоцкага гадавіка» з'яўляецца праца Давіда Файнгаўза «Падпольны друк Студзеньскага паўстання на Літве і Беларусі» (1861—1864). Аўтар удзяляе шмат увагі «Гутарцы старога дзеда» і «Мужыцкай праўдзе»; знаёміць чытачоў з іх зместам і з умовамі, у якіх яны нарадзіліся. Разам з тым Д. Файнгаўз абмяркоўвае пытанні, высунутыя падпольнымі беларускімі выданнямі, дае іх ацэнку і ў пасобных выпадках палемізуе з сучаснымі поглядамі на гэтыя выданні ў працах савецкіх вучоных.

Не менш цікавай часткай публікацыі з'яўляецца абмяркоўка польскіх выданняў гэтага часу. Д. Файнгаўз уносіць тут шмат новага, пускаючы ў навуковы абыход дагэтуль мала вядомыя факты і падзеі. У цэласці праца польскага даследчыка — гэта смелы і творчы крок наперад у вывучэнні канспірацыйных выданняў на беларуска - літоўскіх землях у гады Студзеньскага паўстання, крок далёкі ад шаблонных установак і спрашчэнняў.

Е. Ёка піша аб забастоўцы беластоцкіх тэкстыльшчыкаў у 1932 годзе. Яго праца прадстаўляе нам крыніцы, якія пабудзілі рабочых тэкстыльнай прамысловасці Беласточчыны да гэтага выступлення. Аўтар адзначае вялікую ролю КПЗБ у гэтых падзеях, абмяркоўвае адносіны паміж ёю і ППС у перыяд падрыхтоўкі забастовачнага руху і ў час яго. Указвае на шэраг слабых бакоў забастоўкі, якія не дазволілі рабочым дабіцца поўнай перамогі.

Несумненную цікавасць прадстаўляе таксама публікацыя Станіслава Калябінскага аб рабочым руху на Беласточчыне ў 1897—1900 г.г. Змешчаныя тут матэрыялы датычаць Беластока, Гарадка і Крынак.

У спецыяльным раздзеле рэцэнзій і абмяркоўвак IV том выдання знаёміць чытачоў з апошнімі працамі па археалогіі, гісторыі Беларусі, Літвы і Падляшша. Варта яшчэ падкрэсліць, што выданне друкуе працу Фрыды Д. Гурысевіч аб выніках археалагічных даследванняў у Навагрудку на Беларусі, праведзеных у 1956—1961 г.г.

IV том «Беластоцкага гадавіка» — гэта новы, каштоўны набытак, які пралівае свет на многія дагэтуль невядомыя справы і выдатна ўзбагачае нашыя веды аб землях, на якіх жывем і з якімі мяжуем.

**М. Канапацкі**

## З. Бжазоўскі

# КАНТРАСТЫ

Апетыт прыходзіць з ядою. Гэта праўда. Праўда і тое, што ўсё больш расце запатрабаванне на сельскагаспадарчыя прадукты. Павялічваюцца патрэбы на хлеб, масла, мяса. Расце запатрабаванне ўсё развіваючайся прамысловасці. Ці мы можам задаволіць да канца гэтыя растучыя патрэбы? Вось пытанне, на якое павінна адказаць наша зямля - карміліца. Калісьці я сустрэўся са сцвярджэннем, што сельская гаспадарка (у прамым і пераносным сэнсе) — гэта капальня золата. Зразумела, што маецца тут на ўвазе поўнае выкарыстанне існуючых рэзерваў. Ёсць у нас 16 ваяводстваў і 16 прыкладаў добрага і дрэннага гаспадарання. Мерай добрага або дрэннага гаспадарання напэўна будзе ўраджайнасць. Таму прыкладам добрай сельскай гаспадаркі (хоць не заўсёды найлепшай) з'яўляецца Апольскае ваяводства. Добрыя вынікі маюць Уроцлаўскае і Быдгашчскае ваяводствы.

Паколькі гаворым аб неабходнасці выкарыстання ўсіх рэзерваў у сельскай гаспадарцы, звернемся да прыкладаў з Беластоцкага ваяводства, якое ў апошнія гады дабіваецца ўсё лепшай ураджайнасці з гектара, але ўсё яшчэ знаходзіцца на апошнім месцы ў краіне. Каб прыпомніць, скажу, што за апошнія 20 год на Беласточчыне ўраджайнасць з гектара ўзрасла на 4,5 цэнтнера з га, а на Апольшчыне толькі на 2 ц.

Прычынай адсталасці на Беласточчыне з'яўляецца несумненна існуючая яшчэ запушчанасць і параўнаўча малы ўклад грошай. Плошча беластоцкай зямлі займае каля паўтара мільёна гектараў. Пятую частку ўраджаю «з'ядаюць» шкоднікі і нішчаць хваробы. Лічачы скромна, гэта складае каля 3 мільёнаў цэнтнераў збожжа. Ці няма магчымасці неяк ратаваць збожжа? Як мне здаецца, канцэнтрацыя ўвагі на барацьбе з пустазеллем і іншымі шкоднікамі можа даць добрыя вынікі. Але гэта толькі частка рэзерваў, існуючых у беластоцкай сельскай гаспадарцы. Ёсць яшчэ нявыкарыстаныя землі. Гэта балоты, якія займаюць сотні тысяч гектараў. На меліярацыю гэтых зямель штогод прызначаюцца сотні мільёнаў злотых, што прыносіць карысць у выглядзе дадатковай колькасці дабраякасных траў. Дзякуючы гэтаму павялічваецца жывёлагадоўля. Пацяшаюча. Але не можа нас цешыць той факт, што ў ваяводстве існуе каля 10 тысяч гектараў меліяраванай зямлі, якая зусім не выкарыстоўваецца. Растуць там кусты. А меліярацыя гэтых зямель каштавала каля 50 мільёнаў злотых.

У гэтай пяцігодцы на сельскую гаспадарку прызначана ў нашым ваяводстве 2,5 мільярда злотых. Як на нашы магчымасці, гэта шмат, але яшчэ мала, калі ўлічыць нашы патрэбы. Здаецца аднак, што справа не ў тым, колькі грошай прызначана на сельскую гаспадарку, а ў тым, колькі і як выкарыстоўваецца. На апошняй нарадзе сельскагаспадарчага актыву ў Беластоку гаварылася аб магчымасцях выкарыстання ўсіх рэзерваў у сельскай гаспадарцы. Прыводзіліся прыклады добрай гаспадаркі. Напрыклад, яшчэ нядаўна Элцкі, Галдапскі і Алецкі паветы лічыліся аднымі з найбольш адсталых. Сёння ў гэтых паветах найвышэйшыя ўраджаі. А Гайнаўскі, Бельскі і Сямяціцкі паветы, невядома чаму, маюць самыя нізкія ўраджаі.

Уся справа ў тым, каб ліквідаваць у нашай сельскай гаспадарцы дыспрапорцыі, кантрасты. А ўсё гэта існуе ў нашых рэзервах.



© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# ФАЗАНЫ НА ГАЙНАЎШЧЫНЕ

Гайнаўшчына — рай для паляўнічых. Вялікія лясныя масівы на чале з пушчай ствараюць выдатныя ўмовы для жыцця звяроў і птушак. Нічога тады дзіўнага, што і замежныя аматары «пастраляць» часта паяўляюцца на Гайнаўшчыне. А як жыхары павета адносяцца да гэтага цікавага спорту?

З такім пытаннем звярнуліся мы да павятовага лоўчага Яна Кіцэля.

— На тэрыторыі нашага павета, — адказаў ён, — ёсць 7 паляўнічых гурткоў. Яны аб'ядноўваюць 126 паляўнічых. Ёсць яшчэ і браканьеры, але паколькі яны не арганізаваны, немагчыма вызначыць іх ліку, — пажартаваў лоўчы.

— Асноўная дзейнасць паляўнічых — спорт? — пытаем.

— Не, — пярэчыць лоўчы. — Спорт зыходзіць у нас на другі план. Найважнейшае — гэта дапамога звярыне ў зімовы перыяд, абарона яе перад браканьерамі. У гэтым напрамку нашым паляўнічым даводзіцца працаваць нямала. Вось, напрыклад, гурток у Белавежы. Ён налічвае 30 паляўнічых. А абход яго — каля 18 тысяч гектараў. Тэрыторыя вялікая. Паяўляюцца ў нас і ваўкі. А гэта найбольш крывавыя «браканьеры». Таму і б'ем іх бязлітасна. Мастаком у гэтай справе з'яўляецца Мікола Дзмітрук з Кляшчэляў. Ён ужо ў новым годзе ўгробіў аднаго ваўка.

— А што датычыць спорту, — у якіх аколіцах і што страляеце?

— Дзікія вепрукі і сарны найбольш трымаюцца аколіц Кляшчэляў. Каля Гайнаўкі, Белавежы і Нараўкі выдатныя мясціны на зайцаў. Дзікіх качак найбольш у аколіцах Кляшчэляў (вёска Дашы) і на балотах над ракой Нарвай. Цецерукі аблюбавалі лясы каля Кляшчэляў.

— А што новага ў вашым паляўнічым свеце?

— У бягучым годзе думаем у шырэйшым маштабе разводзіць фазанаў. Справа гэта прызначана тром паляўнічым гурткам: Белавежы, Гайнаўцы і Нарве. Зараз ёсць іх каля 10 штук у надлясніцтве Бальерова. Але доследы паказваюць, што гэтая каралеўская птушка мае ў нас выдатныя ўмовы для таго, каб хутка размножыцца.

— Дзякуем за размову, жадаем поспехаў і ў будучым напрашваемся на фазанаў. (вб)

# Нараджаецца больш

Пісалі мы ўжо неаднойчы, што «загс», які існуе пры прэзідыуме ГРН у Храбалах, Бельскага павета, карыстаецца вялікай папулярнасцю сярод маладажонаў. Сюды неаднойчы прыязджалі нават з адлеглых грамадскіх рад, каб узяць шлюб. Бо тут і прыемна, пакой абсталяваны і вельмі ўрачыста. Былі такія гады, калі ў храбалаўскім «загсе» было больш шлюбаў, чымсьці, напрыклад, запісаў нованароджаных грамадзян.

— А як выглядала гэтая справа ў мінулым годзе? — звярнуліся мы да сакратара прэзідыума.

— Змянілася, — адказаў ён. — У мінулым годзе запісана ў нас 113 нованароджаных, а шлюбы ўзялі толькі 45 пар. На тэрыторыі, якую абслугоўвае «загс», памерла ў мінулым годзе 57 асоб.

(вб)



# СУПЕР-САМ

Калі прыдзецца пабываць вам у Варшаве, варта тады наведаць самы вялізны ў краіне магазін прадуктаў і прадметаў хатняга карыстання.

Магазін называецца «Супер-сам». Гэта таму, што абаснаваны ён па прынцыпу самаабслугоўвання. Да ўсяго, што знаходзіцца ў продажу, можна свабодна дакрануцца рукою, паглядзець, выбраць. Ніхто не забараняе (глядзі здымак 1).

Магазін вельмі прасторны. Насіць у руках тавары, выбраныя пакупнікам, цяжкавата. Але навошта насіць! Калі ласка, бярыце спецыяльны возік і хоць паўдня шпацыруйце з ім ад секцыі да секцыі магазіна. Пакуль трапіце ў касу. Вялікая выгада.

«Супер-сам» знаходзіцца на плошчы Люблінскай Уніі (глядзі здымак 2). У яго вельмі цікавая, нетыповая для звычайных магазінаў архітэктура. Гэта адна з цікавейшых пабудоў сталіцы.

Тэкст і фота (вр)



# ТЭХНІКА З ВІЗАЙ

(Працяг са стар. 1)

таксама аб радарным абсталяванні для вымярэння дарожных хуткасцей, прададзеных Югаславіі. З добрага боку паказала сябе ў мінулым годзе тэхніка, звязаная з ХІ Музай. Сапраўдным поспехам можна назваць новы выхад на рынкі ГДР з 400-ватовымі тэлевізійнымі перадатчыкамі і тэлевізійным камерным пуцём на рынкі Румыніі. Контрагентам з Заходняй Германіі ўпершыню мы даставілі монакрышталы (выраб фабрыкі фізікі пры ПАН) і электрычныя матopы вядомай серыі Е. Навейшую тэхніку прадстаўляюць спектраметры нейтронаў, экспартаваныя ў Савецкі Саюз і Егіпет. Да вельмі ўданай прадукцыі трэба залічыць сталёва-алюміневы дрот для высокіх напружанняў паводле англійскіх норм, які купіла Бразілія, і катлы цэнтральнага агравання з печамі на нафту, якія экспартаваліся ў Італію.

## ДЭВІЗЫ Ў ТАБЛЕТКАХ

У 1963 годзе «Цэх» адзначыў немалое пашырэнне асартыменту ў экспарце фармацэўтычных тавараў. Уведзены ў лік экспартных 34 новыя лекі, сярод якіх варта назваць какарбавылазу і міатрыфос у ампулках і нітрафуранталін у таблетках. Экспарт новых лекаў прынёс каля 17,6 мільёна злотых дэвізовых. Пашыраны асартымент экспартных фарбавальнікаў. Спісак экспартных фотахімічных тавараў павялічыла ў мінулым годзе пазітыўная 16 мм кінаплёнка, магчымасці збыту якой растуць з кожным днём. 1963 год даў пачатак экспарту цэлага шэрагу гатункаў карабельных фарбаў і новых сродкаў для аховы раслін.



Мы спецыяльна зрабілі разведку экспарта ў тых цэнтралях, якія займаюцца забеспячэннем польскай тэхнікі загранічнай візай. Яны якраз маюць рашаючы ўплыў на наш экспарт, ад іх працы будзе ў значнай меры залежаць, ці трэба будзе «падпіраць» наш экспарт вывазам сыравіны і паўфабрыкатаў. Таму ў гэтым годзе асабліва пільна будзем сачыць за адкрытым спіскам экспартных дэбютантаў.

**Т. МЕЦІК**

# УСЕ ЗА... ДВУХ

Дзень 7 студзеня надоўга запомніцца жыхарам вёскі Лука, Гайнаўскага павета. Дзяўчаты і хлопцы нашай вёскі першы раз выступілі ў гэты дзень са сваёй праграмай мастацкай самадзейнасці. Выканалі песні, вершы, гумар і дзве п'есы: «Міхалка» і «Грамы». Папрацаваць прышлося нямала. А пачалося ўсё тады, калі ў школе быў арганізаваны праблемны курс беларускай мовы. Моладзь з захапленнем слухала творы Багушэвіча, Купалы і другіх беларускіх паэтаў і пісьменнікаў. Узнікла думка арганізаваць драматычны гурток. З дапамогай прышлі настаўнікі Тамара і Ян Ціванюкі.

І вось у зале школы многа людзей — жыхароў Лукі і навакольных вёсак. Артысты выразна хвалююцца. Першае выступленне. Зося Харкевіч выконвае песню «Ой, подружки, я влюбилась», а далей ідзе ўсё так, як было запланавана. Твары гледачоў вясёлыя, яны выразна задаволены. Пасля выступлення драмгуртка — танцы. Даўно іх не было ў Луцэ. Святліцы няма, а ў памяшканні школы наладжваць танцы не дазваляецца.

Аказалася, на жаль, не ўсё было прадбачана. Арганізатары забылі, што ў нашай вёсцы жыве Яўген Каральчук і Яўген Жукоўскі. Яны ж не могуць жыць, калі не пап'юцца. Каральчуку і Жукоўскаму ў жыцці многа не трэба. Толькі б глытнуць гарэлкі — і яны пакажуць, што ўмеюць. Ім кулакі так і чэшуцца. Шкада, маладыя здаровыя рукі маглі б быць выкарыстаны ў другім напрамку. Прыкра нашай моладзі за іх.

Моладзь наша, хаця і многа мела прыкрасці, не пакінула сваіх заняткаў. Яна рыхтуе новую праграму. Аднак танцаў не будзе. Трэба пацярпець. Як гаворыць прымаўка, «адзін за ўсіх, усе за аднаго». У гэтым выпадку за двух... Т. Ц.




**«Здрадніка нельга параўноўваць ні з кім і ні з чым. Думаю, што параўнанне са здраднікам было б крыўдным нават для тыфознай вошы»...**

**М. Горкі**

Здарылася гэта вечарам у сярэдзіне лютага 1944 года. У бок будынка былой школы па вуліцы Кіеўскай 1 у Беластоку пракрадаліся два сілуэты. Ішлі асцярожна, прыслухоўваючыся. Калі падкраліся бліжэй да будынка школы, заўважылі, што праз жалюзі з акон на падстрэшшы прасачваецца святло. Гэта было доказам, што там хтосьці ёсць. Людзі антыфашысцкага падполля (гэта былі яны) падзяліліся. Адзін стаў пільнаваць, каб хто не надышоў, а другі яшчэ больш наблізіўся да муру. Праз хвіліну пачуўся трэск ад зрыву гранатнага кальца, гук, звон шкла. Уверх выстраліў слуп пылу. Падпольшчыкі зніклі ў змроку.

Зараз жа прыехалі машыны гестапа і жандармерыі. Пагоня не дала вынікаў. Але замах таксама застаўся без вынікаў.

У каго ж у гэты лютаўскі вечар 1944 года быў накіраваны замах гранатай? Каго хацелі забіць?

У кавалерскім пакойчыку будынка былой школы жыў тады мгр Хведар Ільяшэвіч, арганізатар і духоўны правадыр фашысцкага «аб'яднання», або інакшай Беларускага камітэта, галоўны рэдактар гітлераўскай газеты на беларускай мове «Новая дорога». Так называлі «афіцыяльна» занятак гэтага чалавека ў Беластоку, і гэта не было таямніцай. Праўда, і за гэтую дзейнасць Ільяшэвіч варты быў кулі ці гранаты падпольшчыкаў, але былі і іншыя прычыны, з-за якіх антыфашысцкі камітэт вырашыў зрабіць замах на гэтага атамана. Пазбег ён смерці тады толькі таму, што, калі ўзарвалася граната, Ільяшэвіча не было ў пакоі.

Ад дня таго маленькага здарэння мінае 20 год. Сярод былых супрацоўнікаў Ільяшэвіча і яго «паклоннікаў», г.зн. гітлераўскіх паплечнікаў (асабліва на эміграцыі) ходзіць легенда аб дабрачынстве гэтага чалавека і яго адданасці «беларускай справе»(!). У сувязі з пятнаццацігоддзем смерці Ільяшэвіча эміграцыйныя прадажныя газеты на беларускай мове (асабліва «Бацькаўшчына», якая выдаецца ў Мюнхене за грошы мілітарыстаў і рэваншыстаў з Бона) прысвяцілі Ільяшэвічу і яго дзейнасці велізарныя млосна - сентыментальныя артыкулы. У іх славілі яго веды, яго літаратурныя здольнасці, яго адданасць «беларускай справе». Адзін з гэтых пяўцоў, дзякуючы свайму асляпленню ці дурноце, пішучы аб Ільяшэвічу, зайшоў вельмі далёка. Прыводжу цытату з «Бацькаўшчыны»: «У сувязі з 15 гадавінай смерці Хведара Ільяшэвіча, нельга ніколі забыць аб тым, што ў яго асобе беларуская эміграцыя і ўвесь беларускі народ страціў слаўнага паэта і пісьменніка, які быў ля вяршынь таленту. Мы страцілі нязломнага беларускага дзеяча і гарачага патрыёта сваёй радзімы»...

Цікава, што гэтыя пісакі, славячыя «жыццё сумленнага чалавека», усе неяк сарамліва абыходзяць у жыцці Ільяшэвіча перыяд гітлераўскай акупацыі. Калі і ўспамінаецца аб гэтым, дык паўсловам, усё зводзіцца ў асноўным да таго, што і тады, г. значыць у перыяд гітлераўскай акупацыі на Беласточчыне, «працаваў для беларускай справы». Паколькі той перыяд жыцця Ільяшэвіча таксама «аброс» легендамі, варта глянуць на яго праз прызму дакументаў і фактаў.



© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024




Што рабіць у зімовы, марозны, доўгі і вольны вечар на вёсцы? На тэлевізар, — кідае заклік нехта з грамады. І ўсе ідуць «на тэлевізар да Параскі». Адкуль пайшла такая назва для старой Парасчынай хаты ў Чыжах, ніхто толкам не адкажа. Але гумарыстычная яна, гэта праўда. Бо ў сапраўднасці Параска не мае ніякага тэлевізара, (ніхто ў вёсцы яшчэ яго не мае). Неяк так прызвычаіліся маладыя хадзіць да Параскі, там спатыкацца, у карты іграць. З недахопу адпаведнага месца і з наяўнасці шмат вольнага часу зімой.

У вялікіх багатых Чыжах няма месца, дзе б можна было збірацца, займацца культурнай разрыўкай, апрача «Парасчынага тэлевізара». Месца праўда ёсць — т.зв. «святліца». Вялікі будынак пасярод вёскі, збудаваны яшчэ за часоў былой спулдзельні прадукцыйнай.

Такі будынак не надаецца на святліцу — адна вялізная зала 18x10 метраў, халодная і брыдкая. Але мо' можна было б думаць, як вырваць кавалкі ад вялікай залы і да сцен прыбудаваць гаспадарскім спосабам утульныя, невялічкія каюткі: адна на чытальню, другая на кавярню... Думаць аднак ніхто аб гэтым не думае, бо астаткова невядома, хто мае на святліцу права, хто тут гаспадаром. Праўду кажучы, адносіцца ўражанне, што чыжоўская «святліца» мае замнога гаспадароў. А вядома ж было нават нашым непісьменным продкам, што «дзе сем нянек, там дзіця без носа». Права да чыжоўскай святліцы маюць: сельскагаспадарчы банк у Гайнаўцы (даў крэдыт былой спулдзельні на гэтую будоўлю, якога яна не сплаціла), кіно (у зале высвятляецца раз у тыдзень фільм), ГРН (дзяржавіць будынак ад банку). У вёсцы аднак ведаюць, што найважнейшым гаспадаром з'яўляецца кіраўнік ці механік кіно, якія як захочуць, дык уключаць святло, як не захочуць — не ўключаць (уключацель знаходзіцца ў кабіне кінамеханіка). Ходзяць нават брыдкія слухі сярод чыжоўцаў, што з гэтым святлом без паўлітра не разбярэш.

З ключом да дзвярэй «святліцы» таксама справа неясная. Некаторыя наракаюць, што ходзіць ён крутымі сцежкамі — ад бібліятэкаршы да старшыні і сакратара ГРН. І так, гаворыцца, наракаецца і... нічога не робіцца, хоць усе хацелі б, каб нешта рабілася.

У Чыжах існуе 26-асабовая група ЗМВ-оўцаў. Сам старшыня гуртка прызнаецца шчыра, што яны спалі да восені мінулага года. А тады? Тады знерваваліся, урэшце, старэйшыя бяздзейнасцю сваіх кветак. І асабліва стары дзеяч Пётр Ціханюк. Некалькі разоў сабраў ён маладых ЗВМ-оўцаў, прамовіў да слуху і розуму і такім чынам тыя вырашылі заняцца працай. Але дзе? Але як? Святліца фактычна застаецца недаступнай для чыжоўскай моладзі. Ваня Хадакоўскі — старшыня гуртка кажа: «Мы хацелі б мець крыху права да святліцы». А мне здаецца, не крыху, а поўнае. І партыйная арганізацыя вёскі, тав. Пётр Ціханюк, якія рушылі моладзь, павінны і справу святліцы ўладзіць для агульнай карысці.

У Чыжах планавалася ўтварыць цэнтр культуры пры школе. Вядомыя і высока цэненыя ў Чыжах настаўнікі — дзеячы Генрыка і Ян Кульчакевічы ўсімі рукамі за праект. Справа ва ўмовах. У школе няма месца на культурную дзейнасць (школа маленькая і старая). А мо' б так школу зрабіць найважнейшым гаспадаром чыжоўскай «святліцы»?

Момант спрыяючы, магчымасці ёсць, і патрэбы, велізарныя патрэбы, ёсць, каб нарэшце выйсці з тупіка, у які загнала чыжоўцаў іх святліца. Не сумняваюся таксама, што ў Чыжах знойдзецца апрача Генрыкі Кульчакевіч і Пятра Ціханюка больш людзей энергічных. Упартыя і абыякавыя будуць змушаны ўступіць з поля боя. Людзі ўвечары будуць сыходзіцца на сапраўдны тэлевізар (на які моладзь ужо збірае грошы). «Парасчын тэлевізар» застанецца ва ўспамінах, як мінулае. А мы з радасцю напішам аб згоднай і культурнай вёсцы Чыжы.

**ВЕРА ЛЕЎЧУК**




## РАЗГАВОР АБ МІНУЛЫМ ГОДЗЕ

Ішоў разгавор пра мінулы, 1963 год. Што зроблена, а што недаробленa за тыя 365 дзён? Справа ў тым, каб недаробленае дарабіць у новым 1964 годзе, каб не паўтарыліся памылкі старога года.

Апошняе пасяджэнне прэзідыума адбылося супольна з інструктарамі Галоўнага праўлення, якія працуюць у паасобных аддзелах БГКТ. Яны гаварылі аб дасягненнях і недахопах у дзейнасці Беларускага таварыства ў тых паветах, дзе яны працуюць. З выступленняў інструктараў вынікае, што эстрада «Лявоніха» здабыла вялікі аўтарытэт, што 194 праведзеныя канцэрты ў мінулым годзе яшчэ больш яе расславілі на Беласточчыне. Вялікай папулярнасцю карыстаюцца аўтарскія сустрэчы членаў літаратурнага аб'яднання Белавежа (адбылося іх 52). У мінулым годзе з беларускім рэпертуарам працавала больш 70 драмгурткоў, і больш 50 удзельнічала ў павятовых аглядах мастацкай самадзейнасці. Аматарскія выступленні драмгурткоў і арганізаваныя фэсты ў кожным павеце добра папулярызуюць беларускае мастацкае слова, беларускую песню. Савецкія фільмы, якія БГКТ дэманструе ў памяшканні ГП і з якімі выязджае на вёску, заўсёды збіраюць многа людзей.

62 краязнаўчыя экскурсіі, 149 гутарак праз радыёвузлы, літаратурны зборнік для дзяцей «Мой родны кут», беларускі каляндар на 1964 год, даклады лектарскай групы і розныя конкурсы — усё гэта можна залічыць да дасягненняў БГКТ у 1963 годзе.

Дасягненні ёсць, але ёсць і недахопы. Да іх перш за ўсё трэба залічыць слабы рост радоў БГКТ, дрэннае аплачванне складчын, малая дапамога з боку праўленняў аддзела, слабы арганізацыйны бок большасці арганізаваных мерапрыемстваў і г.д. Да найбольш занядбанай справы трэба залічыць тое, што Дуброўскаму аддзелу Галоўнае праўленне не аказала ніякай дапамогі і таму існуе ён толькі на паперы. Вось таму прэзідыум БГКТ абавязала штатных працаўнікоў таварыства на чале з сакратаром ГП Уладзімірам Юзвюком як мага хутчэй ажывіць дзейнасць Дуброўскага аддзела.

## УВАЙШЛО Ў ТРАДЫЦЫЮ

Стала ўжо традыцыяй, што Сакольскі аддзел БГКТ кожны год арганізуе ёлку для дзяцей — членаў беларускага таварыства. Пасля ёлкі заўсёды адбываецца вечарына для дарослых. У гэтым годзе ёлка адбылася ў канцы студзеня. Дзед мароз уручыў дзецям падарункі.

У гэтым годзе вечарына была асабліва цікавай. Яе адкрыў кароткім выступленнем аб працы таварыства старшыня аддзела Аляксандр Рафаловіч. У Саколцы любяць танцаваць і старэйшыя. Але ў гэты вечар было больш спеву. Выступалі і ў адзіночку і групамі. Прысутныя спявалі і танцавалі пад музыку аркестра ВОП-у.

## У ГОНАР 45-АЙ ГАДАВІНЫ БССР

Нядаўна ў Таварыстве польска-савецкай дружбы і Медыцынскай акадэміі ў Беластоку адбыліся ўрачыстыя пасяджэнні з нагоды 45-тай гадавіны БССР. Пасля дакладаў аб дасягненнях Савецкай Беларусі ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі, адбыліся выступленні эстрады ГП БГКТ «Лявоніха». Пачаткова ў Медыцынскай акадэміі з недаверам адносіліся да мастацкага ўзроўню нашых артыстаў. Але гэты недавер хутка пераўтварыўся ў захапленне. Калі эстрада закончыла канцэрт, усе прысутныя праспявалі ёй «Сто лят». мх

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА БЕЗ ТАЯМНІЦ

# УГНАЕННЕ — ДАДАТКОВЫЯ ГРОШЫ

Усюды шукаем грошай. Усюды і заўсёды. За іх можна купіць усё, што задумаем. Ідзем у краму, просім запакаваць, што нам падабаецца, кладзем на воз і айда дадому. Напрыклад, угнаенне. У ГС розныя ёсць угнаенні — выбірай. Як пасыпаць іх па полю, будзе лепшы ўраджай, г. зн. зноў на некалькі стозалатовак будзе больш у кішэні.

Шукаем самых розных спосабаў павышэння ўраджайнасці. Задумваемся аб вялікіх, дарагіх і цяжкіх справах. А ў той жа час грошы ляжаць на кожным кроку. Так, так, даслоўна, без пераўвелічэнняў.

Шмат гаворыцца аб вялікім недахопе ў ваяводстве гною. Ён патрэбны на кожным полі не радзей як раз на чатыры гады і пад расліны, якія вельмі яго патрабуюць, асабліва прапашныя (акаповыя) і прамысловыя. На Беласточчыне поўная норма гною прыпадае на адно поле раз на 6—7 год. Таму не можна гаварыць аб багацці глебы. Таму і маем нізкія ўраджаі.

Ёсць два шляхі, каб направіць гэтае становішча. Па-першае, хуткі прырост пагалоўя жывёлы і ў сувязі з гэтым павелічэнне колькасці гною. Па-другое, выраб арганічных угнаенняў іншым спосабам. У нашых умовах трэба прыняць і першае і другое. Асаблівую ўвагу трэба звярнуць на кампосты, бо гэта добрае, вельмі якаснае і таннае арганічнае ўгнаенне.

Беласточчына мае тут вялікія шанцы быць адной з перадавых, бо мае багатыя запасы торфу — каля 1/4 мільёна гектараў. Торф вельмі патрэбны пры розных відах кампостаў. Можна рабіць гнойна - тарфяны кампост, фікалійна - тарфяны, лубінава - тарфяны і іншыя. Варта сказаць, што, напрыклад, гнойна-тарфяны кампост, зроблены ў прапорцыі 1:1, мае тую самую вартасць, што чысты гной.

На кампосты можна выкарыстаць гной, фікалій, гнаёўку, лісце з дрэў, пустазелле, салому, розныя адпадкі, асадак ад ачышчання равоў, попел і інш.

Варта аднак звярнуць увагу на тое, што адпады ад ачышчання збожжа маюць у сабе шмат насення пустазелля. Значная частка з іх не гіне ў час ферментацыі кампостаў і прарастае пры вывязенні ўгнаення на поле. Таму гэтыя адпады трэба перад тым, як кінуць на кампост, запарыць гарачай вадой.

На кампост выбіраем месца недалёка ад будынкаў. Добра, каб яно было ў ценю і не падмывалася вадой. Вышыня кампастовай кучы 100—140 см, шырыня — 200 см. У час ферментацыі павінна быць адпаведная вільготнасць. Таму выліваем на кучу розныя кухонныя памыі. Час ад часу робім у кучы дзіркі завостраным калком, каб вада пранікала глыбей.

Кампастовыя кучы добра некалькі раз за сезон «перарабіць». Справа ў тым, каб лепей перамяшаць кампастовую масу. «Перарабіць» трэба не менш як тры разы. Гатовы кампост раскідаем на лугі і выганы ў колькасці 150—200 ц на гектар.

**Інж. М. СУХАЖЭБРСКІ**

## А ГЭТА БЫЎ ПАЧАТАК...

Акупіраваўшы Польшчу, калі штабы гітлераўскай арміі пачалі распрацоўваць планы нападу на Савецкі Саюз, ваенная разведка абвера і палітычная разведка атрымалі заданне актывізаваць і адпаведна выкарыстоўваць эміграцыйныя колы рускіх белагвардзейцаў, украінскіх рэзуноў Мельніка і Бандэры і беларускай эміграцыі. У сярэдзіне 1940 года ў Варшаве арганізуецца нацыяналістычны цэнтр, які 22 чэрвеня 1941 года прымае назву «Беларускі Нацыянальны Цэнтр». Арганізатарам і апекуном гэтага «Цэнтра» было III аддзяленне Галоўнага Ураду Бяспекі Райха (РСГА), вядомае пад назвай СД (Sicherheits Dienst — палітычная разведка). Камісарскім старшынёй гэтай нацыяналістычнай арганізацыі быў назначаны д-р Мікалай Шчорс — стары і заслужаны агент абвера. Яго намеснікам стаў Мікалай Ждановіч. «Доктар» Шчорс разам са сваім «актывам» прыступаюць да выканання задання, якое накрэслілі яму яго хлебадаўцы. Датычыла яно шырокай вярбоўкі для разведкі. Пад канец 1940 года Шчорс і суполка завербавалі больш дзесятка нацыяналістаў. Шпіёнскаму майстэрству гітлераўцы вучылі сваіх вучняў у спецыяльнай «школе» ў Лансдорфе (Усходняя Прусія) і на пачатку 1941 года перакінулі на тэрыторыю Савецкага Саюза. Паколькі вярбоўка Шчорсам і яго памочнікамі з Беларускага нацыянальнага цэнтра працягвалася і далей, узнікла неабходнасць адкрыцця новых шпіёнскіх школ. Гітлераўская разведка арганізуе новыя школы ў Вурмзее (Баварыя), каля Зальцбурга ў Аўстрыі, у Гросмюзлі каля Кенігсберга і Данвітц ва Усходняй Прусіі. З тых школ выходзілі падрыхтаваныя шпіёны і дыверсанты, якіх кіравалі на разведку ў Савецкі Саюз.

Тым якраз перыядам (на пераломе 1940—41 гадоў) датуюцца шпіёнскія кантакты др Мікалая Шчорса з мгр Хведарам Ільяшэвічам, які ў той час, у час існавання на Беласточчыне савецкай улады, жыў і працаваў у Беластоку.

Пасля гітлераўскага нападу на Савецкі Саюз, летам 1941 года, Шчорс высылае ў Беласток свайго даверанага чалавека інж. Часлава Ханяўку з мэтай актывізаваць тут мясцовых нацыяналістаў і арганізаваць нацыяналістычны камітэт. Ханяўка знаходзіць актыўных памочнікаў сабе ў асобах Ільяшэвіча і другога здрадніка Васіля Тамашчука. Усе пачынанні групы беларускіх нацыяналістаў у Беластоку падтрымлівае мясцовае гестапа. Ільяшэвіч пачуў сябе ў сваёй стыхіі. Гестапа надзяляе яго то адной функцыяй, то другой.

Працяг за тыдзень

## З дапамогай для аддзела

(Працяг са стар. 1)

Бельшчыне. А вось некаторыя з іх: 1) Пры праўленні аддзела стварыць партыйную групу, якая забяспечыць палітычнае кіраўніцтва аддзелам і будзе мець уплыў на ўвесь актыў таварыства. 2) Павятовы камітэт ПАРП абавяжа грамадскія камітэты і партыйныя арганізацыі на вёсках зацікавіцца і дапамагаць гурткам арганізацыйна ў прапагандная і культурна - асветнай працы. 3) Аддзел культуры павятовай рады нарадовай у Бельску запэўніць магчымасць разбудовы аматарскіх самадзейных калектываў і будзе садзейнічаць росту іх узроўню, павялічыць колькасць дакладаў і гутарак з рознай тэматыкай. 4) Павятовы дом культуры супольна з праўленнем аддзела арганізуе пастаянныя парады ў галіне форм культурна - асветнай працы і аматарскага руху. 5) Кожны член праўлення аддзела павінен мець акрэслены адрэзак працы ў Таварыстве, а прэзідыум праўлення павінен пастаянна кантраляваць яго працу. 6) Рэвізійная камісія аддзела БГКТ павінна сістэматычна праводзіць кантроль у праўленні гурткоў і дапільноўваць выкананне абавязкаў згодна са статутам.

Нацыянальная камісія прадставіла яшчэ шмат іншых прапаноў, якія несумненна забяспечаць належную працу БГКТ на Бельшчыне. У час дыскусіі і абмяркоўкі гэтых прапаноў члены праўлення аддзела запэўнівалі, што не пашкадуюць часу і працы на паляпшэнне дзейнасці свайго аддзела. (мх)



© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# ТРЫБУНА чытачоў

## Ткачыха — мастак

Жанчыну, якая тчэ на кроснах, на Беласточчыне сустрэнеш у кожнай сялянскай хаце. Здольнасці гэтыя на працягу стагоддзяў пераходзілі з маці на дачку, з бабулі на ўнучку. Драўляныя кросны яшчэ і па сённяшні дзень з'яўляюцца неадлучнай прыладай сялянскага жыцця. Але такой ткачыхі як Клаўдзія Міруць у вёсцы Бандары, Беластоцкага павета, мабыць і не сустрэнеш. Клаўдзія тчэ толькі дываны. Незвычайныя дываны Клаўдзіі. Перш за ўсё шырыня іх даходзіць да двух метраў, а па-другое, узоры дываноў аснаваны выключна на беларускіх нацыянальных арнаментах. Для Клаўдзіі чужыя ўзоры аленяў, лебедзяў, палацаў ці тоў стых катоў, якімі, на жаль, у большасці засмечаны нашы сялянскія хаты. Узоры Клаўдзія вышуквае ў беларускіх часопісах, як «Беларусь» ці «Работніца і сялянка». Шкада толькі, што яны рэдка трапляюць у рукі таленавітай мастачкі. Калі іх няма, Клаўдзія сама кампануе адпаведныя ўзоры. Раіцца са сваёй старэнькай маці ці з другімі вясковымі жанчынамі. Але хаўтуры не робіць ніколі.

Таленавітай ткачысе несумненна дапамагла б кансультацыя з адпаведным спецыялістам - мастаком. (вб)

## Першы раз

Эстрада Галоўнага праўлення БГКТ «Лявоніха» здабыла вялікую папулярнасць асабліва на Беласточчыне. Яе канцэрты з задавальненнем вітае насельніцтва кожнай вёскі. І нашая «Лявоніха» ў некаторых вёсках выступае па 2—3 разы, а нават больш. А вось у Ераўлянах на Сакольшчыне 18 студзеня выступіла яна першы раз. Найбольшая зала школы не змясціла ўсіх ахвотных. Кожны нумар выступлення эстрады ўзнагароджваўся доўгімі апладысментамі, а Аляксандр Каліноўскі пакінуў у прысутных незабыўнае ўражанне. (мх)

## НА СЦЭНЕ Ў ЛОКНІЦЫ

За апошні час гурток мастацкай самадзейнасці ў Локніцы, Бельскага павета, ажывіў сваю дзейнасць. 26 студзеня ў Локніцы самадзейнікі паставілі на сцэне мясцовай школы дзве п'есы — «Міхалка» і «Суседка». На пастаноўку прыйшлі людзі з Мякіш, Падрэчан і другіх вёсак. Прысутныя цёпла таксама ўспрымалі выступленні Алі Сахарчук і Канстантыі Астапчук, якія спявалі песні. На акардэоне акампаніраваў ім наш папулярны гарманіст Стасек. Пасля выступленняў у школе адбылася агульная забава.

За падрыхтоўку цікавай праграмы дзякуем нашай настаўніцы Барбары Анацік і кіраўніку школы Рыгору Леўчуку, якія не шкадавалі часу на працу з моладдзю.

**Аляксандр Дамідзюк**
Локніца

## ПЭНДЗАЛЬ УПРЫГОЖЫЎ

Гандлёвая крама ў Галадах, Бельскага павета, змяшчаецца ў вельмі старым будынку. Цесна тут было і неахайна. Прадаўшчыца Ольга Барташук даўжэйшы час дамагалася знайсці сродкі на аднаўленне крамы. У канцы дабілася свайго. Нядаўна краму падрамантавалі, а ў сярэдзіне прыгожа памалявалі. Крама адмаладзілася, папрыгажэла. У ёй быццам прастарней стала, а тавараў прыбавілася. Зараз прыемна зайсці ў нашую краму.

**С. Грыгарук**
Галады




**Ніжэй друкуем ліст нашага чытача, які выказаў свае думкі аб Ані (яе пісьмо мы друкавалі раней) і перасцерагае другіх наіўных дзяўчат ад такіх цяжкіх памылак. Пачытайце гэты ліст, падыскутуйце над ім. Сапраўды варта.**

**«Дарагое «Сэрцайка»!**

**Я ўжо не малады. Чытаю «Ніву» ад першага яе нумара. Часта спатыкаю пераважна дзяўчат, якія звяртаюцца да Цябе за парадай тады, калі, як пісала Аня з Сакольскага павета, «сталася». Чаму яна не звярнулася за парадай перад тым, як «сталася»? А мела на гэта час. Як сама яна піша: «Маю 19 год, вучылася, на канікулах пазнаёмілася з Колем. Ён мяне цалаваў, але потым замала было яму гэтага. Я не згаджалася». І вось на другой забаве ён з Аняй не танцаваў, і яна пайшла з забавы дадому. Чаму ж яна ў той час, у час перажыванняў, не звярнулася за парадай да «Сэрцайка», што рабіць, згадзіцца ці не? Напэўна атрымала б добрую параду.**

**Мяне вельмі здзіўляе, што дзяўчына вучаная, мабыць, пачытаная, а такая наіўная, мае такую слабую волю. Сама павінна зразумець, што калі б яна не згадзілася, дык ён, Коля, заўсёды насіўся б з думкай дабіцца свайго, а калі ўбачыў бы, што дарэмна, тады сапраўды пакахаў бы яе, нават сам таго не заўважыўшы, бо каханне не прыходзіць, а налятае, як каршун. А калі закахаўся б, тады сам пасароміўся б сваіх брыдкіх намераў. Я не веру, што Коля да Ані больш не прыдзе. Ён за якісь час прыдзе зноў, як воўк за здабычай, ежай, прыманкай. А тады многа не трэба гаварыць з ім, а сказаць некалькі слоў сур'ёзна, што ён хлапец без сумлення, бесчалавечны, што ён забраў усё багацце ў дзяўчыны, якая вымушана будзе саромецца перад мужам за гэткі лёгкадумны ўчынак.**

**Што Аня ненавідзіць мужчын — гэта праўда, бо адчувае адказнасць.**

**Дык вось, усе Ані, звяртайцеся да «Сэрцайка» за парадай перад, а не пасля таго, калі «сталася».**

**Міхась**
**з Нарвы,**
**Гайнаўскі павет.**

ДЛЯ ГУРТКОЎ, СПУЛДЗЕЛЬНЯЎ, ІНДЫВІДУАЛЬНЫХ ГАСПАДАРАК

## Трактары, машыны, прылады

З мэтай павелічэння сельскагаспадарчай прадукцыі, згодна з пастановамі XIV Пленума, павялічана дастаўка для сельскай гаспадаркі трактароў, машын і прылад. Агульная вартасць усіх машын — для дзяржаўных гаспадарак, сельскагаспадарчых гурткоў, спулдзельняў і індывідуальных гаспадарак — дасягае 6350 млн злотых, г. зн. на паўмільярда злотых больш, чым у мінулым годзе. Сельгасгурткам і спулдзельням наш гандаль можа даць машыны на суму 2340 млн зл., у тым ліку 11 тыс. трактароў, 2100 сеялак, 4300 касілак, 6600 снопавязалак, 8800 бульбакапалак. Кошт машын і прылад для індывідуальных гаспадарак дасягае 1,5 мільярда злотых.

Асноўную частку машын для сельскай гаспадаркі выпрадукуе наша прамысловасць. Варта ўспомніць, што прадпрыемствы, прадукуючыя сельскагаспадарчыя машыны, будуць значна пашыраны. Асабліва вялікая сума на пашырэнне прадукцыі вызначана ў Аб'яднанні прамысловасці сельскагаспадарчых машын і трактароў, дзе плануецца на гэта на 50% большая сума, чым у мінулыя гады. Палавіну гэтай сумы атрымаюць трактарныя заводы (на падрыхтоўку для прадукцыі «Зэтара»), другую палавіну — фабрыкі сельгасмашын. У гэтым годзе будзе зроблена больш 19 тыс. трактароў, у тым ліку 17 тыс. «Урсус С—323».

Ужо ў першыя месяцы гэтага года лік працуючых на вёсцы трактароў дасягне 100 штук.

Фабрыкі сельгасмашын пачнуць серыйную прадукцыю 13 важных тыпаў машын, будзе выпушчана 20 пробных серый, зроблена каля 30 прататыпаў. Сярод падрыхтаваных навінак асабліва цікавыя камбайны для буракоў, флюідызацыйныя сушылкі, рассыпнікі вапны, трактарныя касілкі.

Асаблівая ўвага будзе звернута на тэхнічную і арганізацыйную падрыхтоўку для павелічэння вытворчасці дэфіцытных яшчэ машын, як сеялкі, бульбакапалкі, машыны для буракоў, камбайны.

Варта дадаць, што нашым фабрыкам прызнана спецыялізацыя ў прадукцыі 11 тыпаў машын з 50, прынятых праграмай спецыялізацыі Рады Узаемнай Гаспадарчай Дапамогі, і 4 трактароў з 10.

## ПАВЕДАМЛЕННЕ МО



10 снежня 1963 года арыштавана Мечыслава Нярodзік (з дому Астроўскіх, дачка Сцяпана і Браніславы), народжаная 1.IX.1934 года і пражываўшая ў в. Панькі, Беластоцкага павета. Яна абвінавачваецца ў тым, што ў перыяд 1961—63 гадоў, паклікаючыся на свае ўплывы сярод працаўнікоў розных улад і ўстаноў, выдавала сябе за давераную асобу і бралася пасрэднічаць пры ўладжванні розных спраў у розных установах, патрабуючы за гэта адпаведна высокую заплату.

У сувязі з гэтым Ваяводская міліцыя ў Беластоку просіць усіх людзей, якіх ашукала М. Нярodзік, а таксама тых, каму яна звярнула ўзятыя грошы, скантактавацца з міліцыяй асабіста, тэлефанічна або пісьмом на адрас КВ МО ў Беластоку, вул. Сянкевіча 65, пакой №38, тэлефон 31-11, унутраны 346, або да найбліжэйшага пастарунка міліцыі. Прыезджым будзе звернуты кошт падарожжа.

## Вёска Сухавольцы...

...адна з лепш загаспадараваных вёсак у Гайнаўскім павеце, хаця знаходзіцца яна ў раёне слабой глебы. Вуліца шырокая, брукаваная, высаджаная дрэўцамі, штораз сустракаюцца тут мураванкі, якіх у вёсках налічыць можна да 30-ці. (вр)

## КІНО

**Праграма на 18—23.II.1964 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Zakochała się dziewczyna" (radz.), 18—20. „Daleka jest droga" (polski), 21—23.

**Кляшчэлі**
„Rodzaj miłości" (angl.), 18—20. „Krążownik szos" (franc.), 21—23.

**Навасады**
„Kozara" (jugosł.), 22—23.

**Нараў**
„Ulica Andrzeja Krutikowa" (radz.), 19—22.

**Нараўка**
„Przepustka na ląd" (radz.), 22—23.

**Чаромуха**
„Moralność pani Dulskiej" (czeski), 18—20. „Daleka jest droga" (polski), 21—23.

**Чыжы**
„Przystanek — komisariat" (węgierski), 19—23.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Chłopiec z Czarnego Lądu" (angl.), 19—23.

**Бранск**
„Kapral w matni" (franc.), 18—20. „Ballada huzarska" (radziecki), 21—23.

**Гродзіск**
„Dwie sroki za ogon" (radz.); 22—23.

**Орля**
„Po latach" (radz.), 19—23.

**Райск**
„Poślubny rejs" (angl.), 19—23.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Wąż morski z Loch Ness" (angl.), 18—20. „Zbrodniarz i panna" (polski), 21—23.

**Міхалова**
„Ewakuacja" (radz.), 18—19. „Weekendy" (polski), 20—21. „Kiermasz" (NRF), 22—23.

**Супрасль**
„Powiernik pań" (franc.), 18—20. „Milczenie" (polski), 21—23.

**Чорна Беластоцкая**
„Światło na mordercę" (francuski), 18—19. „Tragiczny zamach" (jugosł.), 20—21. „Daleka jest droga" (polski), 22—23.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Мельнік**
„Wąż morski z Loch Ness" (angl.), 18—20. „Zbrodniarz i panna" (polski), 21—23.

**Мілейчыцы**
„Rodzaj miłości" (angl.), 18—20. „Krążownik szos" (franc.), 21—23.

**Нурэц**
„Zamek z bajki" (NRD), 18—20. „Weekendy" (polski), 21—23.

**Сідра**
„Strachy zamku Spessart" (NRF), 18—20. „Ich dzień powszedni" (polski), 21—23.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Ludzie błękitnego płomienia" (radz.), 18—19. „Nasz kochany potwór" (angl.), 20—21. „Gwiaździsty bilet" (radz.), 22—23.

**Сухаволя**
„Przygody Krosza" (radz.), 18—20. „Diabelska przepaść" (czeski), 21—23.

**Шудзялава**
„Gangsterzy i filantropi" (polski), 19—23.

**Янаў**
„Spieniony nurt" (rumuński), 18—20. „Sprawa Niny B" (franc.), 21—23.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Ліпск**
„Europolis" (rumuński), 22—23.

**Новы Двор**
„Trudne lata" (włoski), 22—23.

**Ружаны Сток**
„Et cetera pana półkownika" (włoski), 18—20. „Teresa prowadzi śledztwo" (czeski), 21—23.

## СЯРОД ПУШЧЫ

Падарожнаму не лёгка адшукаць вёску Слабодку. Яна загубілася сярод пералескаў Ляцкай пушчы. Няма нават належнага даезду ў вёску. Слабодка шмат пацярпела за апошнюю вайну. Гітлераўцы, каб не было апоры партызанам, дашчэнту спалілі вёску, а людзей вывезлі. Зараз вёска поўнасцю адбудавана. Яна яшчэ прыгажэйшая, чым была да вайны. Новыя, прыгожыя дамы, шырокая брукаваная вуліца, якую жыхары Слабодкі пабудавалі грамадскім чынам. А ўсё ж жыццё ў такім закутку стварае шмат клопатаў. У Слабодцы няма яшчэ крамы. За кожнай пакупкай жыхары вёскі вымушаны хадзіць у Бандары ў суседні, Беластоцкі павет. Нараўскі ГС, да якога належыць Слабодка, мог бы тут арганізаваць хаця б дапаможны пункт продажу. Гэта было б вельмі выгадна насельніцтву вёскі.

Таксама і са злеўняй малака. У Слабодцы добра развіта жывёлагадоўля. Тут, так сказаць, малако ракой льецца, а злеўні няма. І таму жыхары Слабодкі вымушаны малако адвозіць у Багнюкі, Беластоцкага павета. Дарогай на мост, што ў Бандарах (інакш нельга праехаць раку Нарву), будзе кіламетраў 5. Нявыгадна, марнуецца час. Яшчэ больш клопатаў з навучаннем дзяцей. Тут няма школы. Дзеці вымушаны хадзіць у школу ў Рыбакі, Беластоцкага павета. Зімой, калі завее снегам, нялёгкая гэта справа. Пры добрай ахвоце і адпаведнай ініцыятыве мясцовых улад праз нейкі час будзе магчымасць ліквідаваць гэтыя клопаты. У кожным выпадку, дружныя жыхары Слабодкі ад карыснай працы грамадскім чынам не адмовяцца.

**Т. Харкевіч**
Ляшукі

**сказаў Зомбах, выслухаўшы свайго намесніка.**

**— Затое павысіцца мая ўпэўненасць у засакрэчанасці справы, — адказаў Мюлер.**

**— Крыху нявыгаднай будзе калізія з Крамерам, — сказаў Зомбах. — Я прывёз загад аб яго ўзнагароджанні, і мы тут жа яго адсоўваем, як бы выказваючы яму недавер.**

**— Нам менш за ўсё трэба лічыцца з тым, што падумаюць такія людзі, як Крамер. Нашы загады для іх — не прадмет для роздумаў.**

**— Але Шчукіна вы падключаеце да сябе, а яны з Крамерам у нас на роўным становішчы, і, дарэчы, загад аб узнагароджанні датычыць іх абодвух.**

**— Загад можна не аб'яўляць ім цяпер, а зрабіць гэта месяцаў праз два, калі ўсё ўтрасецца, — сказаў Мюлер.**

**— Але чаму вы ўсё ж выбралі Шчукіна? — спытаў Зомбах. — Крамер куды разумнейшы і больш актыўны.**

**— Шчукіну я веру больш, чым Крамеру, — адказаў Мюлер.**

**— Ну што ж, рабіце, як лічыце за лепшае, — сказаў Зомбах. — Але загад аб узнагародах я аб'яўляю ім яшчэ сёння. І без гэтага загад амаль паўгода праваляўся ў нетрах ваенных канцылярый.**

**— Гэта ваша справа.**

**— Агульная ідэя вашага плана мне падабаецца, — сказаў Зомбах.**

**— Цешуся, што вы, урэшце, мяне зразумелі, — усміхнуўся Мюлер.**

**Раней Зомбах не выбачыў бы такую фразу. Цяпер сказаў:**

**— Справа не ў тым, дарагі Мюлер, што я раптам паразумнеў. Цяпер нашы пункты гледжання зблізіў час і новыя аператыўныя заданні...**

**Працяг за тыдзень**

98



© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

